ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

№ 106(5288)
Субота,
15 верасня
2001 года

*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

*Кошт у розніцу — 80 руб.*

Прэм'ер-міністр Рэспублікі Беларусь Уладзімір Ярмошын віншуе з уручэннем дзяржаўнай узнагароды дырэктара мінскай гімназіі № 130 Вольгу Клачкову.

Фота Мікалая ПЯТРОВА. БЕЛТА.

## Векавая біяграфія школы

***Пачатак новага навучальнага года для лідскай сярэдняй школы № 3 супаў з яе стогадовым юбілеем. Урачыстасці з гэтай нагоды сталі святам усяго горада, а тым больш выхаванцаў школы.***

Сваім нараджэннем яна абавязана мясцовай асветніцы Марыі Канстанцінаўне Навіцкай, стараннямі якой у пачатку мінулага стагоддзя ў Лідзе была адкрыта гімназія. Ушаноўваючы педагагічную дзейнасць слыннай землячкі, настаўнікі і вучні пакланіліся яе магіле і прынеслі сюды жывыя кветкі. А на будынку школы адкрыта мемарыяльная дошка ў гонар М.Навіцкай.

Хвалююча і змястоўна прайшла ў гонар юбілею ўрачыстасць у гарадскім Доме культуры. Ветэранаў школы і цяперашніх яе настаўнікаў цёпла віталі прадстаўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў, шматлікія выпускнікі, калегі з розных школ горада. Выхаванец трэцяй сярэдняй, а цяпер доктар навук Генадзь Тарас узнёсла гаварыў пра тых настаўнікаў, чые ўрокі вучні слухалі, як вернікі малітву. Шмат цёплых і ўдзячных слоў было выказана былому дырэктару школы Ю.Мілею, таленавітым педагогам А.Біржаковай, Л.Топаль, В.Кісялёву, Л.Русель і многім іншым. Дабрадушную ўсмешку і пэўную разрадку выклікала выступленне-"пакаянне" кандыдата геаграфічных навук В.Слюкіна.

На ўрачыстасці былі адзначаны заслугі настаўнікаў сярэдняй школы № 3 розных гадоў і пакаленняў. Не абышлося і без падарункаў. Старшыня гарвыканкама У.Малец уручыў школе ад імя мясцовай улады абсталяванне для камп'ютэрнага класа. Загадчык аддзела адукацыі У.Русак падарыў капіравальны апарат, дырэктар абутковай фабрыкі К.Рунец — тэлевізар... А група настаўнікаў удастоена ганаровых грамат гарадскога выканаўчага камітэта.

Словам, школа-юбілярка ўступіла ў першы навучальны год XXI стагоддзя з добрым настроем.

**Аляксандр ЖАЛКОЎСКІ,**
**нештатны карэспандэнт.**

## Вэсткі з Хойніцкага раёна

### Кандыдаты на прэміі аблвыканкама

Упершыню ў гэтым годзе раённы выканаўчы камітэт Хойнікаў з падачы аддзела адукацыі прыняў рашэнне хадайнічаць перад Гомельскім аблвыканкамам аб выдзяленні двум вучням раёна прэміі за поспехі ў інтэлектуальным развіцці.

Прэтэндэнтам на яе атрыманне з'яўляецца вучань 6 класа гарадской сярэдняй школы Міхаіл Савянок, які мае вялікія здольнасці ў матэматыцы. Адначасова райвыканкам прасіў абласное ўпраўленне па праблемах наступстваў катастрофы на ЧАЭС выдзеліць бацькам гэтага хлопца кватэру ў Гомелі з мэтай больш поўнай рэалізацыі яго інтэлектуальных магчымасцей. Падобна, што ў сям'і простых рабочых падрастае будучы вучоны, які аднойчы можа стаць гонарам раёна.

У дзесятку лепшых удзельнікаў прадметных алімпіяд вобласці ўвайшоў і вучань 11 класа сярэдняй школы № 3 Хойнікаў Дзяніс Гуз. Ён таксама з'яўляецца кандыдатам на прэмію аблвыканкама.

### На працу — у родную школу

Сёлетні навучальны год у якасці настаўнікаў у раёне пачалі 22 выпускнікі вышэйшых і сярэдніх спецыяльных устаноў педагагічнага профілю. Сярод іх — 15 чалавек, што з'яўляюцца ўраджэнцамі Хойнікшчыны і набывалі спецыяльнасць па мэтавых накіраваннях. Пяць з іх прыступілі да працоўнай дзейнасці ў школах, выпускнікамі якіх яны былі. Гэта Т.А.Фяськова — цяперашняя настаўніца сярэдняй школы № 1 райцэнтра, Л.І.Піввар — сярэдняй школы № 3, М.А.Бяспалая — выкладчыца Партызанскай сярэдняй школы, І.У.Сцішанок — Віцьеўскай сярэдняй школы, В.А.Заяц — Вялікаборскай базавай школы.

Напярэдадні новага навучальнага года адбылася сустрэча маладых педагогаў Хойнікшчыны. Перад імі выступаў старшыня раённага выканаўчага камітэта М.І.Садчанка, які абяцаў асабістае садзейнічанне ў вырашэнні побытавых праблем настаўнікаў, якія прыбылі ў раён. Астатняе — залежыць ад асоб і здольнасцей кожнага з маладых педагогаў.

### З дабрачыннай місіяй

Рэха катастрофы на Чарнобыльскай АЭС адгукнулася сярод жыхароў нямецкага горада Хенеф, якія боль хайнічан у сувязі з гэтым успрынялі як свой. Дзевяць гадоў назад тут створана дабрачынная арганізацыя, якая мае цесныя сувязі з калектывам Партызанскай сярэдняй школы і раёнам у цэлым.

Асабліва запамінальным застанецца візіт замежных сяброў у сельскую школу перад пачаткам гэтага навучальнага года. На ўрачыстай лінейцы прысутнічалі члены ініцыятыўнай групы Мікалай Лаўкар і Юрген Шнэк. Яны прывезлі гуманітарны груз. Мікрааўтобус перададзены аддзелу адукацыі райвыканкама. А Партызанская сярэдняя школа атрымала капіравальную тэхніку і школьныя прыналежнасці — алоўкі, фламастэры, інструменты для чарчэння і малявання, фарбы і клей.

Пятага верасня група вучняў гэтай школы паехала на аздараўленне ў горад Хенеф. Кіраўніком групы з'яўляецца дырэктар школы Н.М.Прыходзька.

### У час канікулаў — на збожжатаку

Педагагічны калектыў Вялікаборскай базавай школы імя Б.Сачанкі стараецца як мага раней выхаваць у вучняў любоў да працы. Пасля праходжання аздараўлення многія дзеці ў час летніх канікулаў працавалі сёлета на збожжатаку КСУП "Вялікаборскі", дапамагалі хлебаробам у перапрацоўцы вырашчанага ўраджаю. Асабліва пастараліся Павел Шлёг, Пётр Каляда, Дзмітрый Краўчанка, Дзяніс Гулевіч. 18 вучням, якія прымалі ў гэтым дзейсны ўдзел, на ўрачыстай лінейцы намеснік дырэктара сельгаспрадпрыемства Аляксандр Паўлавіч Сачанка ўручыў прэміі па 3 тысячы рублёў кожнаму, а іх бацькам — удзячныя пісьмы.

**Клаўдзія БОСАК.**

## Вэсткі з Барысава

### Першы раз у дзіцячы сад і школу

Больш як сорак маладых педагогаў было запланавана прыняць на працу ў школы і дзіцячыя сады Барысава ў гэтым навучальным годзе. 14 з гэтых маладых спецыялістаў маюць вышэйшую адукацыю. Толькі двое настаўнікаў — хлопцы, яны будуць выкладаць фізкультуру. Гэта значыць, педагагічны калектыў і ў далейшым застанецца пераважна жаночым.

У раёне ўпершыню прыступілі да педагагічнай дзейнасці 30 выпускнікоў ВНУ, каледжаў і вучылішчаў. Чацвёра з іх — уладальнікі дыпломаў вышэйшых навучальных устаноў, прычым трое — хлопцы (адзін закончыў БДУ, а двое — педуніверсітэт імя М.Танка). Ужо пазнаёміліся са сваімі маленькімі выхаванцамі чацвёра маладых педработнікаў сельскіх дзіцячых садоў.

### Пісьмы з падзякай... з-за мяжы

У чатырох краінах далёкага замежжа пабывалі на летніх канікулах выхаванцы школы-інтэрната для дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і сірот з Барысава. 20 дзяцей адпачывалі ў Італіі ў сем'ях па запрашэннях. Першакласніцы сёстры Юля і Света Джумагалiевы два месяцы жылі ў Ірландыі, а дзевяцігадовая Насця Ясіновіч і дзесяцігадовы Вова Будай — у Англіі.

10 вучняў першага і падрыхтоўчага класаў гэтай жа навучальнай установы пабывалі ў Іспаніі. Два месяцы дзеці правялі ў гэтым цудоўным краі. Вось што паведаміў нам дырэктар школы-інтэрната Вадзім Сяргеевіч Нячаеў:

— Сувязь з Іспаніяй — гэта вынік напрацовак нашага калектыву. Наведаць, напрыклад, гэтую краіну — мара многіх нашых выхаванцаў. А дапамагалі яе ажыццявіць прадстаўнікі міжнароднага грамадскага дабрачыннага аб'яднання "Незалежная дапамога дзецям" (прэзідэнт — Таццяна Аляксандраўна Кот), міжнародных дабрачынных фондаў "Дрэва жыцця" і "Свет для дзяцей".

Дзеці вярнуліся шчаслівыя, паздаравелыя, з мноствам уражанняў і падарункаў. І мы, гледзячы на іх, радуемся. Да таго ж прыемна, што з краін, куды ездзілі нашы выхаванцы, прыходзяць... пісьмы з падзякай. Нам пішуць, што нашы дзеці паслухмяныя і ласкавыя. Вось і нядаўна з Іспаніі прыйшоў ліст ад сям'і Серада, у якой гасцяваў Максім Ласіцкі. Хлопчыка там палюбілі, чакаюць ізноў у госці, хаця ў гэтых людзей двое сваіх дзяцей...

Сапраўды, пра такія канікулы мараць, напэўна, усе дзеці, але не заўсёды мары становяцца рэальнасцю. Думаецца, справядліва, што такую радасць лёс падараваў менавіта абяздоленым дзецям.

**Алена РАМАНАВА.**
Барысаў.

Пра што б хацелася сказаць на II з'ездзе настаўнікаў Рэспублікі Беларусь

## Каб не зазірнуў у школу... маньяк

**Валянціна Арсеньеўна Лагацкая, дырэктар школы № 197 Мінска:**

— Вельмі вострае пытанне — ахова школы. Школа, па сутнасці, безабаронная. Сюды можа зайсці любы чалавек. Ёсць нядобранадзейныя, скажам так, жыхары мікраараёна, ёсць псіхічна хворыя людзі, ёсць былыя выпускнікі, якія 5-6 гадоў таму закончылі школу, паспелі пабываць ужо ў турме — яны чамусьці любяць завітваць у родныя школьныя сцены. Ёсць, у рэшце рэшт, тэрарысты...

Я літаральна гадзіну назад выпраўджвала са школы былога нашага вучня, які нядаўна вярнуўся дахаты пасля лячэння ў псіхіятрычнай бальніцы, што ў Навінках. Ён зайшоў сюды, стаў хадзіць па класах і тузаць за дзвярныя ручкі, замінаў праводзіць урокі. Колькі спатрэбілася намаганняў, каб угаварыць яго пайсці са школы! У мінулым годзе ў нашым мікраараёне былі выпадкі, калі ў школы ўрываліся псіхічна неўраўнаважаныя людзі. Некалькі маленькіх дзяўчынак атрымалі моцны стрэс... Дарэчы, школьную маёмасць у абсалютнай большасці выпадкаў псуюць не дзеці, а тыя, хто зазірнуў "на агеньчык".

Ахова школы — гэта першнаперш ахова здароўя і жыцця дзяцей. Ведаю, што ў школах Германіі — дзверы з кодавымі замкамі. Чужы чалавек туды зайсці не можа. Нават калі вучань спазніўся на ўрок, ён чакае яго заканчэння. Пасля званка вартаўнік па ўнутранай сувязі выклікае настаўніка, які ведае гэтага вучня ў твар, і толькі настаўнік можа правесці яго ў школу. У дзяцей ёсць пропускі са штрыхкодамі...

Некаторыя мінскія школы ўжо практыкуюць уваход дзяцей толькі па вучнёўскіх пропусках. Але, думаю, гэта не спыніць староннягa чалавека. Бо ля школьнага ўвахода звычайна сядзіць бабулька перадпенсійнага ўзросту альбо пенсіянерка. Хіба яна можа справіцца з хуліганамі? Так, у школе дзяжураць на вахце бабулькі, бо мужчына працаваць за такую зарплату не пойдзе. І настаўніцкі калектыў пераважна жаночы. Ёсць, канешне, і некалькі мужчын (звычайна гэта настаўнікі фізкультуры), але знайсці іх бывае цяжка — яны ўсе на ўроках. А час, здараецца, не церпіць.

У Расіі многія школы ўжо дзякуючы спонсарскай дапамозе бацькоў паставілі ля ўвахода міліцэйскі патруль. Нам было б нябдрэнна пераняць гэты вопыт.

У нашай школе арганізавана работа бацькоўскага патруля. Кожны дзень чатыры чалавекі з бацькоў па чарзе дзяжураць ля школы, асабліва ў самы небяспечны час, калі дзеці павінны вяртацца дадому з другой змены. Але гэтага недастаткова. Бацькі маглі б аплачваць дзяжурства міліцэйскага патруля ў школе — у рэшце рэшт тут вучацца іх уласныя дзеці. У суседняй 191-й школе падлічылі: атрымалася, бацькі павінны будуць заплаціць за ахову свайго дзіцяці прыкладна 600 рублёў у месяц. Гэта мізэр. Затое ў школе з 8 да 20 гадзін будуць дзяжурыць два міліцыянеры. Дзеці будуць у бяспецы. Канешне, найлепш, каб гэтае пытанне было вырашана цэнтралізавана.

**Да друку падрыхтавала Святлана СУБОЦІНА.**

**АД РЭДАКЦЫІ:** размова з Валянцінай Арсеньеўнай Лагацкай вялася 11 верасня, у 10 гадзін раніцы. А літаральна праз некалькі гадзін усе мы з жахам даведаліся пра тэрарыстычныя акты, якія адбыліся ў ЗША. Так, на жаль, тэма, закранутая ў гэтай гутарцы, набыла надзвычайную актуальнасць і злабадзённасць.

Свята на нашай вуліцы

## Летняя Універсіяда-2001 завершана

Поспехам палітычным, культурна-інтэлектуальным назваў намеснік міністра адукацыі Беларусі Алег Георгіевіч Слука выступленне беларускай студэнцкай каманды на XXI Сусветнай летняй універсіядзе, што прайшла ў сталіцы Кітая. У ёй бралі ўдзел 9000 спартсменаў з 170 краін свету.

Толькі 37 спартсменаў — 243-я частка з агульнай колькасці ўдзельнікаў спаборніцтваў — прадстаўлялі нашую краіну. Да таго ж з 12 відаў спорту беларусы выступілі толькі ў сямі. Але ж 17 разоў лунаў флаг Беларусі ў час універсіяды ў Пекіне — 17 медалёў прывезлі дадому нашыя юнакі і дзяўчаты. Па колькасці ўзнагарод беларуская зборная — дзесятая. "Гэта вельмі вялікі поспех, цудоўная перамога, — сцвярджае Алег Георгіевіч, які прысутнічаў на спаборніцтвах. — Каманда была падрыхтавана на вельмі высокім узроўні". Усе 17 узнагарод — сярэбраныя і бронзавыя. "Каб беларуская зборная выйграла хоць адзін залаты медаль, можна было б казаць пра трыумф беларускага спорту", — дадае намеснік міністра адукацыі.

Аднаго сантыметра не хапіла да першага месца нашаму легкаатлету Генадзю Марозу; высокі ўзровень паказалі сярэбраныя прызёры "Універсіяды-2001" Наталля Сафронава (трайны скачок); паказаў сябе сапраўдным волатам вельмі каларытны Леанід Чараўко — кідальнік дыска. Дарэчы, у Кітаі безліч людзей імкнулася з ім сфатаграфавацца. Вельмі сур'ёзнай перамогай з'яўляюцца бронзавыя медалі Вікторыі і Веранікі Паўловіч у настольным тэнісе (парны разрад). Яны змагаліся на роўных з кітаянкамі, сапраўднымі віртуозамі гэтага віду спорту. Таму такі вынік нашых дзяўчын варты захаплення. Бронзавы прызёр у спартыўнай гімнастыцы Дзмітрый Каспіровіч змагаўся з трыма алімпійскімі чэмпіёнамі і да таго ж выступаў першы. Надзвычай добрыя водгукі аб беларускай камандзе па дзюдо, дасягненнях нашых спартсменаў у скачках у вышыню.

Цяпер нашыя спартсмены прымаюць віншаванні на роднай зямлі і дзеляцца ўражаннямі.

Леанід Чараўко: "Адразу пасля спаборніцтваў маё выступленне падалося мне паражэннем. Гэта мая апошняя універсіяда, таму хацелася завяршыць яе "золатам". Але потым я вырашыў, што "срэбра" — таксама нядрэнна. Сваёй працай у гэтым сезоне я задаволены".

Наталля Сафронава: "Я паказала такі вынік, на які была падрыхтавана. Мая суперніца была мацнейшай і выступала больш стабільна. Да таго ж у гэтым відзе спорту шмат вырашае шанцаванне: аднаму вецер дзьме насустрач, а другому — у спіну, нібы дапамагае. І нічога змяніць нельга — у цябе ёсць толькі адна хвіліна".

На жаль, некаторыя з нашых лепшых спартсменаў не змаглі прыняць удзел ва універсіядзе, бо выступалі на іншых спаборніцтвах. Дар'я Яўгенаўна Чарнышова, галоўны трэнер Рэспубліканскага цэнтра фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў Міністэрства адукацыі, лічыць, што калі б не такія абставіны, наша зборная здолела б выйграць і залатыя ўзнагароды.

Трэнеры нашай каманды, спецыялісты абяцаюць дэталёва вывучыць карціну, якая склалася на універсіядзе, каб у далейшым па магчымасці скасаваць негатыўныя моманты і прадставіць на наступныя спаборніцтвы больш моцную каманду як фізічна, так і псіхалагічна. Галоўнае, каб спартсмен быў настроены на перамогу і бачыў за асабістым поспехам поспех сваёй краіны.

І тут ёсць чаму павучыцца ў кітайскіх юнакоў і дзяўчат. У іх больш за 100 медалёў, каля паловы з якіх — залатыя. І гэта не дзіўна. Пекін — будучая сталіца Алімпійскіх гульняў 2008 года. Кітай вельмі сур'ёзна рыхтуецца да іх. І хоць падзея гэтая яшчэ далёка, але алімпіяда ўжо нібы лунае ў паветры. Таму "Універсіяда-2001" — даволі сур'ёзны крок у сэнсе падрыхтоўкі да Алімпійскіх гульняў. Акрамя таго, цудоўнай была і арганізацыя самой універсіяды. Побытавыя ўмовы, медыцынскае абслугоўванне — на вельмі высокім узроўні.

"Напярэдадні Алімпійскіх гульняў кітайскі бок вырашыў, што універсіяда, якая праводзіцца ў іх краіне, павінна стаць лепшай за ўсю гісторыю такіх гульняў, — расказвае міністр спорту і турызму Беларусі Яўген Мікалаевіч Ворсін. — І сапраўды было так. Проста фантастычна выглядала адкрыццё і закрыццё спаборніцтваў. Я быў на алімпіядзе ў Атланце, на універсіядзе ў Японіі і інш., але такога яшчэ не бачыў. Іх наступная мэта — правесці лепшыя за стогадовую гісторыю Алімпійскія гульні. І сёлетняя універсіяда пацвярджае, што гэта магчыма".

Вядома, наша краіна шмат меншая за Кітай, дый эканоміка ў нас не так эфектыўна працуе, каб забяспечыць такое ж фінансаванне гэтай галіны. "Але ж сродкі ўкладаць сюды трэба, — сцвярджае Алег Георгіевіч Слука, — каб на наступных спаборніцтвах атрымаць яшчэ лепшы вынік. Гэта ж — эканамічная субстанцыя, і яна вельмі добра акупляецца, асабліва ў выхаванні моладзі — этычным, адукацыйным, маральным і г.д. Увесь свет вывучае, што гэта за феномен — беларуская спартыўная арганізацыя, яны вывучаюць нашыя сакрэты. Дык трэба сакрэты гэтыя рэалізоўваць".

І апошняе. Самыя высокія задачы ставіліся перад беларускай камандай на універсіядзе ў Пекіне, каб спартсмены маглі зарэкамендаваць сябе перад алімпіядай 2004 года. Беларусь фарміруе цяпер практычна новую нацыянальную каманду. У нас ёсць цудоўныя спартсмены, дзяржава аказвае належную дапамогу, таму спадзявацца, што да Алімпійскіх гульняў каманда добра падрыхтуецца. Поспехаў табе, зборная Беларусі! Да новых узнагарод.

**Вольга ЗАЙКІНА.**

За мяжой

### Мяняецца адукацыйная палітыка

Эксперымент па ўвядзенні 12-гадовай сярэдняй адукацыі будзе завершаны праз два-тры гады. Пра гэта заявіў нядаўна міністр адукацыі Расійскай Федэрацыі Уладзімір Філіпаў.

Па яго словах, гэты эксперымент уключаны ў канцэпцыю "Адукацыйнай палітыкі РФ на сучасным этапе". Пасля падвядзення вынікаў эксперыменту ў выпадку яго паспяховага правядзення зменіцца не столькі колькасць гадоў сярэдняй адукацыі, колькі "ўвесь змест школьнай адукацыйнай сістэмы".

Рэформа прадугледжвае пачатак навучання з шасцігадовага ўзросту, арыентацыю на сацыяльныя і гуманітарныя прадметы, вывучэнне замежных моў і інфарматыкі з другога класа, перагляд усёй школьнай вучэбнай праграмы, увядзенне спецыяльнай адукацыі ў старшых класах і перагляд формы ўступных экзаменаў у ВНУ.

У.Філіпаў адзначыў, што цяпер 12-гадовую школьную адукацыю падтрымлівае больш за палову расіян, і гэта сведчыць пра тое, што правядзенне эксперыменту "актуальна і неабходна для грамадства".

### З'явяцца Інтэрнет-класы

Праз пяць гадоў большасць навучальных устаноў Расіі ў адукацыйным працэсе будзе выкарыстоўваць камп'ютэрныя тэхналогіі, заявіў на адкрыцці Другой віртуальнай ўсерасійскай педагагічнай нарады міністр адукацыі Расійскай Федэрацыі Уладзімір Філіпаў.

Нядаўна ўрад Расіі зацвердзіў федэральную праграму "Інфарматызацыя сферы расійскай адукацыі", згодна з якой на працягу пяці гадоў большасць навучальных устаноў краіны будзе абсталявана не толькі камп'ютэрнымі класамі, але і, па магчымасці, сувяззю Інтэрнет. Міністр паведаміў, што на інфарматызацыю адукацыйных устаноў усіх узроўняў плануецца патраціць каля 56 млрд. рублёў як з федэральнага бюджэту, бюджэту рэгіёнаў, так і пазабюджэтных сродкаў.

Як адзначыў У.Філіпаў, рэалізацыя праграмы прадугледжвае распрацоўку праграм інфарматызацыі для кожнага рэгіёна краіны, а таксама стварэнне ва ўсіх суб'ектах федэрацыі Інтэрнэт-цэнтраў па падрыхтоўцы і навучанні асновам камп'ютэрных ведаў. Ён падкрэсліў, што ўжо ў наступным годзе ў расійскай адукацыі будзе створана "індустрыя электроннага адукацыйнага прадукту", і да пачатку наступнага навучальнага года па 30 асноўных школьных прадметах ва ўсе сярэднія адукацыйныя ўстановы будуць накіраваны камп'ютэрныя праграмы, рэкамендаваныя Міністэрствам адукацыі РФ.

У.Філіпаў адзначыў, што "інфарматызацыя расійскіх навучальных устаноў адпавядае асноўным задачам сучаснай рэформы адукацыі — павелічэнню даступнасці адукацыі і павышэнню яе якасці".

**Падрыхтаваў Ігар КАНДРАЛЬ.**

### Паважаныя чытачы!

***Працягваецца падпіска на перыядычныя выданні на чацвёрты квартал 2001 года.***

***Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў агенцтве "Белсаюздруку".***

Падпісны кошт на квартал для індывідуальных падпісчыкаў на месяц — 950 рублёў, на квартал — 2850 рублёў.

***Па ведамаснай падпісцы на месяц — 2800 рублёў, на квартал — 8400 рублёў.***

### "Настаўніцкая газета" — для чытачоў у IV квартале

*Паважаныя чытачы!*

*Афармляючы падпіску на "Настаўніцкую газету" на IV квартал гэтага года, вы дакладна будзеце ведаць, што на яе старонках можна прачытаць матэрыялы пра:*

*— II з'езд настаўнікаў, які пройдзе 2-3 лістапада 2001 г.;*

*— падзеі, якія адбудуцца ва ўстановах, арганізацыях адукацыі;*

*— правядзенне рэформы школы;*

*— лепшых педагогаў;*

*— сучасныя методыкі навучання;*

*— сацыяльныя праблемы педагогаў, навучэнцаў, студэнтаў;*

*— праблемы выхавання;*

*— філасофскія, псіхалагічныя аспекты педагагічнай дзейнасці;*

*— падзеі, з'явы культурнага жыцця, спорту.*

*Таксама будуць друкавацца:*

*— тэсты адзіных экзаменаў у Беларусі і Расіі (спецыяльны выпуск);*

*— тэматычныя старонкі: "Айчына", "Сям'я", "Кнігарня";*

*— інтэрв'ю з прадстаўнікамі сістэмы адукацыі, заслужанымі работнікамі, цікавымі людзьмі;*

*— юрыдычныя кансультацыі;*

*— пісьмы чытачоў.*

